ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 3

































*Цярновая Ружа – яна ж Спячая Прыгажуня ў рэдакцыі казак братоў Грым.







НА ЖАЛЬ, МЕНАВІТА ТАКІМ ЧЫНАМ ДЗЕЙНІЧАЕ СТАРОЕ ЧАРАЎНІЦТВА. СПАЧАТКУ Я ПАРАНЮ АБ ШТОСЬЦІ ПАЛЕЦ І ЗВАЛЬВАЮСЯ СПЯЧАЙ. ПАСЛЯ – УСЕ ВАКОЛ МЯНЕ ПАЧЫНАЮЦЬ ЗАСЫНАЦЬ. І НАРЭШЦЕ, ЦЯРНОВЫ ЛЕС ПАЧЫНАЕ РАСЦІ НАВАКОЛ КОЖНАГА БУДЫНКА, ДЗЕ Б Я НІ ЗНАХОДЗІЛАСЯ.


У ГЭТЫ РАЗ НАМ ПАШАНЦАВАЛА. ЯНЫ ДАПУСКАЮЦЬ, ШТО ЎСЁ ГЭТА – УЦЕЧКА ГАЗУ. АЛЕ МЫ НЯ МОЖАМ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ТАКІЯ ІНЦЫДЭНТЫ. НЕ СЯРОД ГЭТЫХ ЧОРТАВЫХ "ЗВЫЧАЙНЫХ".
Я НЕ ЛІЧУ, ШТО ГЭТЫЯ ЧАРЫ КЛАПОЦЯЦЦА ПРА ТОЕ, **ДЗЕ Я** І ПАСЯРОД **КАГО**.
Ф.Б.Р.
РОЗЫСК
ДЕК


Я ЛІЧЫЛА, ШТО ГЭТА СКОНЧЫЦЦА НАЗАЎСЁДЫ ТАМ, ДОМА, КАЛІ **МЯНЕ ПАЦАЛУЕ** ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ. АЛЕ Ў РЭЧАІСНАСЦІ ГЭТА ТОЛЬКІ АДКІНУЛА ЧАРЫ НА ІХ ПАЧАТКОВУЮ ПАЗІЦЫЮ.
ГЭТА БЯСКОНЦЫ ЦЫКЛ.


У ТАКІМ ВЫПАДКУ ТАБЕ НАЎПРОСТ ТРЭБА СКОНЧЫЦЬ РАНІЦЬ СВАЕ ПАЛЬЦЫ. ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ДАСТАТКОВА БАГАТАЯ – НАЙМІ ПРАЦАЎНІКОЎ, ХАЙ ЯНЫ ЗРОБЯЦЬ РАМОНТ У ТВАЁЙ КВАТЭРЫ, ВЫДАЛЯЦЬ ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ І КРАІ.
І АПРАНАЙ ПАЛЬЧАТКІ, КАЛІ ВЫХОДЗІШ З КВАТЭРЫ. **ТОЎСТЫЯ.**


ГЭТА МОЖА ДАПАМАГЧЫ, АЛЕ ТОЛЬКІ ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ ЗІМУ НЯ ЗМЕНІЦЬ ВЯСНА.


БОЗЛІ.
НАВАТ ТАК, БАГАТЫЯ ПАВІННЫ МЕЦЬ ЭКСЦЭНТРЫЧНЫЯ ДЗІВОТЫ. ХАЙ ГЭТА БУДЗЕ ТВАЁЙ.
ТУК ТУК

ГАСПОДЗЬ УСЯВЫШНІ, ШТО **ЗАРАЗ**?
ПРАБАЧ, ШТО ПЕРАПЫНЯЮ ШЭРЫФ, АЛЕ ТЫ ПАТРЭБНЫ АДДАНАМУДЖОНУ ЗНАДВОРКУ.

ГЭТА **"ЗВЫЧАЙНЫ"** ДЖЭНТЛЬМЭН, ЁН ЗА ВАРОТАМІ, СЭР.
І? МЫ ЗАЎСЁДЫ ПРАПУСКАЕМ "ЗВЫЧАЙНЫХ" ЦЕРАЗ ФЭЙБЛТАЎН, ЯНЫ НЯ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ГЭТА НЯ ІХ ЧАСТКА ГОРАДА.

ВЫКЛЮЧАЮЧЫ ТОЕ, ШТО ГЭТЫ ПЫТАЎ ВАС ПА ІМЕНІ.



ДЗЕСЬЦІ Ў ГОРАДЗЕ
Я ЖАДАЮ, КАБ ТЫ ВЫМЯТАЎСЯ! ВОН З МАЁЙ КВАТЭРЫ І МАЙГО ЖЫЦЦЯ.

Я ЎЖО НА ДВА КРОКІ ЎПЕРАДЗЕ, ШАНОЎНАЯ МОЛІ. ПАКУЛЬ ТЫ СПАЛА, Я АДПРАВІЎ СВОЙ БАГАЖ НА ХАВАННЕ.
КАЛІ Я ЧАМУ І НАВУЧЫЎСЯ ЗА ГЭТЫЯ ГАДЫ, ДЫК ГЭТА ТАМУ, ЧАГО МНЕ ЧАКАЦЬ, КАЛІ АДНОСІНЫ НАТУРАЛЬНЫМ ЧЫНАМ ВЫЧАРПАЛІ СЯБЕ.
МОЛІ?!
ЯКАЯ ЯШЧЭ МОЛІ?!

УПС. ЗЛЯЦЕЛА З ЯЗЫКА. НІКОЛІ НЕ МАГУ ЗАПОМНІЦЬ, МЕНАВІТА З ЯКОЙ МІЛКАЙ Я ЖЫВУ Ў ДАДЗЕНЫ МОМАНТ. ТЫ ХТО? ДАФНА? ТРЫШ?

Я ВЕДАЛА ГЭТА! Я ВЕДАЛА, ШТО ТЫ ВАДЗІЎ СЮДЫ ІНШЫХ ЖАНЧЫН, ПАКУЛЬ МЯНЕ НЕ БЫЛО. Я ВЕДАЛА, ШТО ТЫ КРАДЗЕШ У МЯНЕ ГРОШЫ!
ТАК, Я ЖУДАСНЫ ХАМ.
БЕРАЖЫ СЯБЕ, БЭЦІ, ЦІ КРЫСІ, ЦІ ХТО ТЫ ТАМ.

АКЕЙ, ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ, ЦЯПЕР КУДЫ?

І ВЯРТАЮЧЫСЯ Ў ФЭЙБЛТАЎН.
АКЕЙ, СЯБР, НУ І ШТО ТУТ У НАС?
МІСТАР ВОЎК?
ГЭТА ЗАЛЕЖЫЦЬ АД ТАГО, ХТО **ТЫ**, ЧОРТ ЦЯБЕ ДЗЯРЫ, ТАКІ І **ШТО ТАБЕ ТРЭБА.**













Я ВЕДАЮ ЎСЕ ВАШЫ САКРЭТЫ!
ТАДЫ ТЫ ВЕДАЕШ БОЛЬШ ЗА МЯНЕ.


У ЯКАСЦІ ЖУРНАЛІСЦКАЙ ВЕТЛІВАСЦІ Я ВЫРАШЫЎ НАРЭШЦЕ РАСКРЫЦЬ СЯБЕ...
ВЫЙСЦІ З ЦЕНЮ, ЯК ГАВОРЫЦЦА...
ДЛЯ ТАГО, КАБ ДАЦЬ ВАМ МАГЧЫМАСЦЬ АДКАЗАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ Я АДПРАЎЛЮ СВАЮ ГІСТОРЫЮ Ў ДРУК.
АДКАЗАЦЬ НА ШТО? ПАКУЛЬ ТЫ ПРОСТА ВЯРЗЕШ ГЛУПСТВА.


МОЖАЦЕ ПРАЦЯГВАЦЬ УХІЛЯЦЦА, КАЛІ ВАМ ПАДАБАЕЦЦА, АЛЕ Я ВЕДАЮ ТОЕ, ШТО Я ВЕДАЮ.
ПРЫНІ ГЭТУЮ ШТУКУ З-ПАД МАЙГО НОСА.
ВЫ СУПОЛКА БЕССМЯРОТНЫХ... МАГЧЫМА.


У КОЖНЫМ РАЗЕ, ВЫ ЖЫВЯЦЕ СТАГОДДЗЯМІ, ХАВАЮЧЫСЯ Ў ГЭТЫМ НЕВЯЛІКІМ, ЦІХІМ КУТКУ ГОРАДА.
ВАША ГРУПА ВАЛОДАЕ ЎСІМ У ГЭТЫМ БЛОКУ, ПАЧЫНАЮЧЫ З ТАГО ЧАСУ, КАЛІ НЬЮ-ЁРК ЗВАЎСЯ НОВЫМ АМСТЭРДАМАМ.


У МЯНЕ ЁСЦЬ ЗАПІСЫ. Я СКЛАЎ ПЕРСАНАЛЬНАЕ ДАСЬЕ. Я РАСКАПАЎ ФОТАЗДЫМКІ... ЯКІЯ ДАТУЮЦЦА ПАЧАТКАМ ЭРЫ ФОТАТЭХНАЛОГІІ... І НІВОДНЫ З ВАС НЕ САСТАРЭЎ НІ НА ДЗЕНЬ!


ДАЙ ЗДАГАДАЮСЯ, ТВАЯ ГІСТОРЫЯ БУДЗЕ НАКШТАЛТ: «ЭЛВІС БЫЎ ПРЫШЭЛЬЦАМ!» І «ЯК Я КАХАЎ КАЗУ».
МОЖАЦЕ КПІЦЬ, КАЛІ ВАМ ПАДАБАЕЦЦА, АЛЕ МЫ АБОДВА ВЕДАЕМ – Я АТРЫМАЮ ПУЛІТЦЭРАЎСКУЮ ПРЭМІЮ ЗА ГЭТА.


МАБЫЦЬ НАВАТ НОБЕЛЕЎСКУЮ...
...ЯК ПЕРШЫ, ХТО ПРЫВЯДЗЕ БЯСПРЭЧНЫЯ ДОКАЗЫ ІСНАВАННЯ ТАКІХ, ЯК ВЫ.
І ШТО ТЫ РАЗУМЕЕШ ПАД «ТАКІМІ ЯК Я»?


ЗРАЗУМЕЛА, ВАМПІРАЎ!
СУР'ЁЗНА?


БОЖАЖТЫМОЙ! ТЫ СУР'ЁЗНА!
СУПОЛКА БЕССМЯРОТНЫХ З ФАНТАСТЫЧНЫМІ СІЛАМІ, ЯКІЯ ПРЫКІДВАЮЦЦА ЗВЫЧАЙНЫМІ ЛЮДЗЬМІ? Я ЧЫТАЎ ЭНН РАЙС. ГЛЯДЗЕЎ ФІЛЬМЫ. УСЁ СЫХОДЗІЦЦА.


ВЫ ЗАБЯСПЕЧЫЛІ МЯНЕ АПОШНІМ, САМЫМ ПЕРАКАНАЎЧЫМ ДОКАЗАМ. Я ПРАСАЧЫЎ ЗА ВАМІ ПАДЧАС АДНАГО З ВАШЫХ ШПАЦЫРАЎ У ЦЭНТРАЛЬНЫМ ПАРКУ ПАСЛЯ ЯГО ЗАКРЫЦЦЯ. Я БАЧЫЎ, ЯК ВЫ РАСПРАНУЛІСЯ, ПАСЛЯ ЧАГО ВЫ НАБЫЛІ ЖЫВЁЛЬНУЮ ФОРМУ ДЛЯ СВАЙГО ПАЎНОЧНАГА ШПАЦЫРУ. ГЭТА ТОЕ, ШТО МОГУЦЬ РАБІЦЬ ВАМПІРЫ, ТАК?


ВЫ МЯНЕ НЯ БАЧЫЛІ, ТАК? ДЗЯКУЮЧЫ МАЙМУ ФОТАГРАФІЧНАМУ ТЭЛЕАБ'ЕКТЫВУ, Я ЗМОГ ЗАСТАВАЦЦА ДАЛЁКА.
ТЫ БЫЎ ДАСТАТКОВА ДУРНЫ, КАБ ПРЫЙСЦІ СЮДЫ, ДЗЕ Я МАГУ ЛЁГКА ДАБРАЦЦА ДА ЦЯБЕ?

ТОЛЬКІ **ЎДЗЕНЬ**, КАЛІ Ў ВАС НЯМА НІЯКІХ СІЛ СУПРАЦЬ МЯНЕ. ВЫ НЯ МОЖАЦЕ ЗАРАЗ ЗАГІПНАТЫЗАВАЦЬ МЯНЕ, НЯ МОЖАЦЕ МЯНЕ КРАНУЦЬ... ЭММ... ПРАЎДА Ж?
ТЫ ПСІХ.

ПРАЦЯГВАЙЦЕ Ў ТЫМ ЖА ДУХУ, КАЛІ НАСТОЙВАЕЦЕ.
АЛЕ Я НЯ БУДУ ЧАКАЦЬ ДОЎГА, КАБ УКЛЮЧЫЦЬ ВАШУ ВЕРСІЮ ГІСТОРЫІ, ПЕРШ ЧЫМ ГЭТА ПОЙДЗЕ Ў ДРУК.

ЗНІКНІ, КЛОЎН.

ВОСЬ МАЯ ВІЗІТКА, МІСТАР ВОЎК, ПАТЭЛЕФАНУЙЦЕ МНЕ, КАЛІ ПЕРАДУМАЕЦЕ.
І НЕ СПАДЗЯВАЙЦЕСЯ, ШТО ЗМОЖАЦЕ МЯНЕ ЗЛАВІЦЬ ПАСЛЯ ЗАХОДУ СОНЦА.

Я ВЕДАЮ, ЯК ГЭТА ДЗЕЙНІЧАЕ, Я БУДУ Ў БЯСПЕЦЫ - У СЯБЕ ДОМА, І ВАМПІРЫ НЯ ЗМОГУЦЬ УВАСЦІ БЕЗ МАЙГО ЗАПРАШЭННЯ.
Я НЕ БАЮСЯ ВАС.
САПРАЎДЫ НЕ БАЮСЯ.




У ДАВОЛІ ДЗІЎНЫМ ОФІСЕ КІРАЎЦТВА СПРАВАМІ Ў ВУДЛЭНДЗЕ.

КАЛІ ШАРПА АПУБЛІКУЮЦЬ, НАША ЖЫЦЦЁ ТУТ ФАКТЫЧНА СКОНЧЫЦЦА. НАВАТ КАЛІ НІХТО АФІЦЫЙНА НЕ ПАВЕРЫЦЬ У ГЭТУЮ ГІСТОРЫЮ, НАБЯРЭЦЦА ДАСТАТКОВА ШМАТ ЗВАР'ЯЦЕЛЫХ НА ВАМПІРАХ ГОТАЎ І НАЎПРОСТ ДЗІВАКОЎ СА ЗВЫЧАЙНЫХ.

ДЫК У ЧЫМ СПРАВА, НАМ ТРЭБА ЗАБІЦЬ ГЭТАГА ХЛОПЦА...

ЯК ТАГО АПОШНЯГА БЕДНАГА ВЫРАДКА, ЯКІ ДАВЕДАЎСЯ ПРА НАС У ДВАЦЦАТЫЯ.

Я ВЕДАЮ, ЯК ЗРАБІЦЬ ГЭТА ТАКІМ ЧЫНАМ, КАБ ГЭТА ВЫГЛЯДАЛА ЯК САМАЗАБОЙСТВА.

Я РАЗГЛЯДАЎ ГЭТЫ ВАРЫЯНТ, СІНЕБАРОД, І АМАЛЬ АЖЫЦЦЯВІЎ ГЭТА ЎЛАСНАРУЧНА, ТАМ, НА ВУЛІЦЫ.




ХІБА СПАДАРЫНЕ СНЕЖЦЫ НЯ ВАРТА БЫЦЬ ТУТ?
НЕ. НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА МАЕ ПЕРАВАГІ, ГЭТА МОЖА ВЫЛІЦЦА Ў НЕАБХОДНАСЦЬ БРУДНЫХ МЕТАДАЎ.
ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ ЯНА АЧУНЬВАЕЦЦА, Я ЖАДАЮ, КАБ СНЕЖКА ТРЫМАЛАСЯ ДАЛЕЙ АД ГЭТАГА.


ДЫК ВОСЬ, ШТО МЫ БУДЗЕМ РАБІЦЬ?
ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ ТАК, БЫЦЦАМ ТЫ ЎЖО ПРЫДУМАЎ ПЛАН, ВОЎК.
МАГЧЫМА.
НАМ НЕАБХОДНА ДЗЕЙНІЧАЦЬ ХУТКА - ГЭТАЙ НОЧЧУ.


АЛЕ СПЯРША НАМ ТРЭБА ЗНАЙСЦІ, ДЗЕ СПЫНІЎСЯ ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ.
І НАМ СПАТРЭБІЦЦА ДАПАМОГА РУЖЫ ЦЕРНІ.


СПЯЧАЯ ПРЫГАЖУНЯ? НАВОШТА? ШТО ТЫ ЗАДУМАЎ?
ПЛАН, ВАРТЫ ЦЯБЕ, ДЖЭК, ВЫКЛЮЧАЮЧЫ ТОЕ, ШТО ГЭТЫ МАЕ ШАНЦЫ НА ПОСПЕХ. ПАКУЛЬ ТЫ СПРАБАВАЎ ІНТЭРНЭТ-МАХЛЯРСТВА Ў МІНУЛЫМ ГОДЗЕ, ЯК ДОБРА ТЫ СТАЎ ВАЛОДАЦЬ КАМП'ЮТЭРАМ?


У КВАТЭРЫ СІНЕБАРОДА.
МЯНЕ НЕ ХВАЛЮЕ, ШТО ЗАДУМАЎ ВОЎК. НАМ НЕАБХОДНА ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА БОЛЬШ КАРДЫНАЛЬНА-ГА ВЫРАШЭННЯ ГЭТАЙ ПРАБЛЕМЫ — ПРОСТА НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК.


КАЛІ ТВАЁ ДАСЬЕ НЯ ВЫДУМ-КА АД ПАЧАТКУ ДА КАНЦА, ЗНАЧЫЦЬ У ЦЯБЕ ЎЖО БЫЛІ НЕБЯСПЕЧНЫЯ СПРАВЫ. КАЛІ ВЕРЫЦЬ КАЗКАМ, ТО КАЛІСЬЦІ ТЫ БЫЎ ВЯДОМЫ ЯК ЗАБОЙЦА ВОЛАТАЎ.
ТЫ НЕ ЦУРАЕШ-СЯ ЯКРАЗ І ЗАГАДЗЯ СКАРЫСТОЎВАЦЬ СМЯ-РОТНЫ ГВАЛТ.
І ШТО? У КОЖНАГА З НАС У МІНУЛЫМ БЫЛІ РОЗНЫЯ ЭПІЗОДЫ.


ГЭТА АДЗІН З ПАБОЧНЫХ ЭФЕКТАЎ ДОЎГАГА ЖЫЦЦЯ.


ГЭТА ЗБРОЯ «ЧЫСТАЯ», ЯЕ НЕМАГЧЫМА АДСАЧЫЦЬ. ВАЗЬМІ АДНУ.
ПАКЛАДЗІ Ў ВОНКАВУЮ КІШЭНЮ, АДТУЛЬ ТЫ МОЖАШ ХУТКА ЯЕ ВЫЦЯГ-НУЦЬ... КАБ СКАРЫСТАЦЬ, ЦІ ЗБАВІЦЦА АД ЯЕ, КАЛІ СПАТРЭБІЦЦА.


КАЛІ МЫ ЗМОЖАМ УСЁ ЎЛАДЗІЦЬ, ЯК МЯРКУЕ БОЗЛІ - ВЫДАТНА, АЛЕ КАЛІ ПЛАН ВАЎКА ПРАВАЛІЦЦА...
...НАМ ТРЭБА БЫЦЬ ГАТОВЫМІ ВЫЙСЦІ НА ПЕР-ШЫ ПЛАН.


ПРАБАЧЦЕ, ШТО ПЕРАШКАДЖАЮ, СЭР.
СПАДАР ВОЎК ГАТОЎ ВЫХОДЗІЦЬ.
МЫ ІДЗЁМ.

ДЫК ВОСЬ...

ЕДЗЬ ДА ДЗЕЛАВОГА ЦЭНТРА, ДА ТРЫБЯКО. ШАРП ЖЫВЕ Ў АДНЫМ З ГЭТЫХ ШЫКОЎНЫХ КВАТЭРНЫХ ДАМОЎ, ПАБУДАВАНЫХ У ХАТСАН СКВЕР.

УСЕ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ІМ РАБІЦЬ?

ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ І РУЖА ЦЕРНІ... ВЫ ВЫХОДЗІЦЕ ПЕРШЫЯ.

ДАЗВОЛЬ МНЕ ДАПАМАГЧЫ ТАБЕ, МАЯ ДАРАЖЭНЬКАЯ. ГЭТЫ СНЕГ ТАКІ ПА-ЗДРАДНІЦКУ КОЎЗКІ, КАЛІ НА ЯГО НАСТУПАЕШ.

ТЫ АДРАЗУ ПАЗНАЕШ «ЗДРАДНІЦТВА», КАЛІ ЎБАЧЫШ, **ДАРАГІ...**

...БЫЎШЫ ЎМУДРОНЫ АСАБІСТЫМ ВОПЫТАМ.

НУ-НУ, ШАНОЎНАЯ, ЗАРАЗ НЯМА ЧАГО ВАРУШЫЦЬ МІНУЛАЕ.

ЗАПОМНІ: МЫ ШАЛЁНА ШЧАСЛІВАЯ ПАРА **ЗВЫЧАЙНЫХ**.

ДВА СВЕЦКІЯ ПРЫТЫРКІ З БЯСКОНЦАГА МНОСТВА Ў ГЭТЫМ ГОРАДЗЕ.

Я СЫГРАЮ СВАЮ РОЛЮ, «ДАРАГІ», АЛЕ ТРЫМАЙ **РУКІ** ПРЫ САБЕ.


ДОБРЫ ВЕЧАР СЭР, МЭМ, БРЫДКАЕ НАДВОР'Е, ЦІ НЯ ПРАЎДА?
ДЗЯКУЙ ТАБЕ, МІЛЫ ЧАЛАВЕК.
ПАСЛЯ ЦЯБЕ, ГАРТЭНЗІЯ, ГАЛУБКА МАЯ.

ВЫ Ж НЕ ПАСТАЯЛЬЦЫ, ТАК?
НЕ, ЗРАЗУМЕЛА НЕ.
МЫ ЖЫВЕМ ДЗЕСЬЦІ **ЛЕПШ**.

МЫ ТУТ ДЛЯ ВЯЛІКАЙ ВЕЧАРЫНЫ.
І ШТО ГЭТА ЗА ВЕЧАРЫНА, СЭР?
ДОБРАЕ ПЫТАННЕ.

ДА КАГО МЫ ПАВІННЫ НАВЕДАЦЦА ГЭТАЙ НОЧЧУ, КАХАННЕ МАЁ?
АДКУЛЬ МНЕ ВЕДАЦЬ?
ХТО Ж ЗА ГЭТЫМ УСОЧЫЦЬ?
ШТО Ж, Я НЕ МАГУ ДАЗВОЛІЦЬ ВАМ ПАДНЯЦЦА, ПАКУЛЬ НЕ ДАВЕДАЮСЯ ДА КАГО ВЫ.
МНЕ ТРЭБА ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ. ГЭТА ПОСТ ВАРТЫ.


МНЕ РОБІЦЦА СУМНА, МАРЦІМЕР.
ЗРАБІ, ШТО-НЕБУДЗЬ.


ПРЫСЯДЗЬ, СОНЕЙКА, Я, МАБЫЦЬ, ПАКІНУЎ ЗАПРАШАЛЬНЫЯ НА СЯДЗЕННІ.
ПРОСТА ПАСЯДЗІ ТУТ ХВІЛІНКУ, І Я ІХ ПРЫНЯСУ.


ПЕЙ, ВЕСЯЛІСЯ, І Я ВЯРНУСЯ ПРАЗ ПАРУ СЕКУНД.




ЯНА ЎНУТРЫ.
ДОБРА, ЗАРАЗ ЧАКАЕМ.
А МЫ НЯ МОЖАМ ЧАКАЦЬ У МАШЫНЕ?
КАЛІ ТЫ НЕ ЗАЎВАЖЫЎ – ЗАРАЗ ЗІМА.





«ПОЗЕХ»

«ПОЗЕХ»

хРрРрРрР
хРрРрРрР


КАЛІ МЫ ЗМОЖАМ УВАЙСЦІ?
ЯШЧЭ РАНА.


«МЕЙ ЦЯРПЛІВАСЦЬ, ПАСТУШОК».
ХРРРРРР


«НАМ ТРЭБА ДАЦЬ ЗАКЛЯЦЦЮ РУЖЫ ЦЕРНІ ЧАС, КАБ ЯНО ПАДЗЕЙНІЧАЛА».


«КАЛІ ЭФЕКТ РАЗЫДЗЕЦЦА, УСЕ Ў БУДЫНКУ ПАВІННЫ ЗАСНУЦЬ».


«КОЖНЫ ЧАЛАВЕК, У КОЖНАЙ КВАТЭРЫ...»
«РАЗАМ З ІХ САБАКАМІ, КОШКАМІ, ПЯСЧАНКАМІ І ПАПУГАЯМІ».
АЛЁ? БЭТ? ТЫ ЯШЧЭ ТУТ?


Я ДУМАЎ, ТЫ ЗАМЕРЗ.
СІНЕБАРОД НЕ ДАЗВАЛЯЕ МНЕ ПАЛІЦЬ У ЛІМУЗІНЕ.
ДАСІ ДАКУРЫЦЬ?


КАЛІ ТЫ НАВУЧЫШСЯ САМАСТОЙНА ЗАБЯСВЕЧ-ВАЦЬ СВАЕ ШКОДНЫЯ ЗВЫЧКІ?
ПРАЙШЛА АМАЛЬ ГАДЗІНА.
НАМ УЖО МОЖНА ЎВАХОДЗІЦЬ?


НЕ. КАЛІ МЫ ЎВОЙДЗЕМ ВЕЛЬМІ РАНА, МЫ САМІ ЗВАЛІМСЯ ПАД ДЗЕЯННЕМ СОННЫХ ЧАРАЎ.
ЯК МЫ Ў ТАКІМ ВЫПАДКУ ДА-ВЕДАЕМСЯ, ШТО ЎЖО БЯСПЕЧНА?


МЫ ДАВЕ-ДАЕМСЯ, ТАМУ ШТО Я ДАВЕДА-ЮСЯ.
А ПОТЫМ СКА-ЖУ АСТАТНІМ.




ГЭТЫ ПСІХ САПРАЎДЫ ЛІЧЫЦЬ, ШТО МЫ ВАМПІРЫ?


МАБЫЦЬ.
ГЭТА НАКШТАЛТ ЯК КРУТА. КАЛІ Б МЫ БЫЛІ ВАМПІРАМІ, МЫ БЫЛІ Б БАГАЦЕЯМІ.


ГЭТА ЯК?
ПАРАЗВАЖАЙ. ВАМПІРЫ СТВА-РАЮЦЬ БОЛЬШ ВАМПІРАЎ, ПРО-СТА ВЫПІЎШЫ ЧАЛАВЕЧАЙ КРЫВІ, ТАК? А ТЫ ВЕДАЕШ, КОЛЬКІ ГЭ-ТЫХ ШУВЕЙНІКАЎ СА ЗВЫЧАЙНЫХ ЗАПЛАЦІЛІ Б КОЖНАМУ, ХТО ПЕ-РАТВАРЫЦЬ ІХ У БЕССМЯРОТНЫХ?


ГЭЙ! Я ПРОСТА ПАДУМАЎ...
ЗАБУДЗЬ ПРА ГЭТА, ДЖЭК.
ЗАБЫЦЬ ПРА **ШТО**?


ТЫ ТОЛЬКІ ШТО ЗРАЗУМЕЎ, ЯК ВЫ-КАРЫСТАЦЬ СВАЕ І НАШЫ СТАРЫЯ ФОТАЗДЫМКІ... ТЫЯ, ЯКІЯ ЗНАЙШОЎ ШАРП... У ЯКАСЦІ ДОКАЗАЎ ДЛЯ ЛЕГ-КАВЕРНЫХ "ЗВЫЧАЙНЫХ" БАГАЦЕЯЎ, ШТО ТЫ ВАМПІР, І АШУКАЦЬ ІХ, ЗАБРАЎШЫ ГРОШЫ...
...І ПААБЯЦАЎШЫ ЗРАБІЦЬ ІХ БЕССМЯРОТНЫМІ.
ЯК..?


Я АПЯРЭДЖ-ВАЮ ЦЯБЕ, ДЖЭК. І ЗАЎСЁДЫ АПЯРЭДЖВАЎ.
ПАСЛЯ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАДОЎ, Я ВЕДАЮ, ЯК ТЫ МЫСЛІШ. ПАСПРА-БУЙ ЗРАБІЦЬ ГЭТА, І Я ЗАСАДЖУ ЦЯБЕ НА СТАГОДДЗЕ.
ЛІХА НА ЦЯБЕ, БОЗЛІ.


ЗАБІ ЗЯПУ, ДЖЭК.
ЦЯРНОЎНІК ПАЧАЎ РАСЦІ.


ЧАС УВАХОДЗІЦЬ.


ШАРП ЖЫВЕ НА СЁМЫМ ПАВЕРСЕ. ДЖЭК І ПАСТУШОК СА МНОЙ. ВАЗЬМІЦЕ ПРЫЛАДЫ.
МУХАЛОЎ І ПРЫНЦ, ЗНАЙДЗІЦЕ ПОСТ ВАРТЫ.
ВЫЯВА З ВІДЭАКАМЕР КУДЫСЬЦІ ЗАПІСВАЕЦЦА, НАМ ТРЭБА БУДЗЕ ЗАБРАЦЬ ПЛЁНКУ З САБОЙ, КАЛІ БУДЗЕМ ПАКІДАЦЬ ГЭТА МЕСЦА.


СІНЕБАРОД УСТАНЕ ЛЯ ДЗВЯРЭЙ.
ЗНАЙДЗІ КЛЮЧЫ І ЗАМКНІ.


**НІХТО** НЕ ПАВІНЕН УВАСЦІ, ПАКУЛЬ МЫ НЯ СКОНЧЫМ.


КАМУ-НЕБУДЗЬ ЯШЧЭ ЗДАЕЦЦА, БЫЦЦАМ МЫ ЗНАХОДЗІМСЯ Ў ФІЛЬМЕ ПРА ГРАБЕЖНІЦТВА?







ДЖЭК, ЗНАЙДЗІ КАМП'ЮТЭР І БЯРЫСЯ ЗА ПРАЦУ. ЁН, МАГЧЫМА, ВЫКАРАСТОЎВАЕ АДЗІН СА СВАІХ ПАКОЯЎ ЯК КАБІНЕТ.

ПАСТУШОК, ЗНАЙДЗІ МІСТАРА ШАРПА І ЎПЭЎНІСЯ, ШТО ЁН СПІЦЬ. ПОТЫМ ДАПАМАЖЫ МНЕ ПЕРАТРЭСЦІ ТУТ УСЁ. НАМ ТРЭБА ПЕРАГЛЕДЗІЦЬ ТУТ УСЕ ФОТАЗДЫМКІ І ЎСЕ ДАКУМЕНТЫ.

АКІ-ДАКІ, ШЭРЫФ.

РАБІЦЕ ЎСЁ ХУТКА, АЛЕ З РОЗУМАМ. НЕ ІДЗІЦЕ НАПРАЛОМ.


КРЫЧЫЦЕ, КАЛІ ПАЧНЕ-
ЦЕ ЗАСЫНАЦЬ. НАС НЕ
ПАВІННЫ ТУТ ЗЛАВІЦЬ.


ПАГЛЯДЗІ НА
СЯБЕ, ТОМІ.
БОЖУХНА, КАЛІ
ЛАСКА, ХАЙ КАМЕ-
РА БУДЗЕ ТУТ. НАМ
ТРЭБА ГЭТА СФА-
ТАГРАФАВАЦЬ.
ХРРРРРР

Я ЗНАЙШОЎ ШАРПА,
АЛЕ ТАБЕ ЛЕПЕЙ УБАЧЫЦЬ
ГЭТА САМОМУ.
НЕ ТУРБУЙ МЯНЕ,
СЫНОК. Я ПРАЦУЮ.





МЫ ЎЗЯЛІ ЎСЁ, ШТО ДАТЫЧЫЦЦА НАС?

Я ЛІЧУ, ШТО ТАК. У ЯГО ПРАЯВАЧНАЯ БЫЛА ЦАЛКАМ ЗАБІТАЯ НАШЫМІ РАЗНАСТАЙНЫМІ ЗДЫМКАМІ.

БОЗЛІ, У МЯНЕ ДОБРЫЯ І ДРЭННЫЯ НАВІНЫ.

ЛАЙНО, ШТО ЗАРАЗ?

Я ПАСПЯХОВА ЗНІШЧЫЎ УСЕ ФАЙЛЫ, ЯКІЯ Ў ЯГО БЫЛІ... НЯМА ПРАБЛЕМ. АЛЕ Я ПРАГЛЕДЗІЎ ЯГО ПОШТУ, ЁН ЗРАБІЎ КОПІІ ЎСІХ ФАЙЛАЎ, ЯКІЯ ДАТЫЧАЦЦА ЯГО ПРАЦЫ І АДАСЛАЎ ІХ.










